# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (755) БЕЛАСТОК 16 ЖНІЎНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

АДАМ МІЦКЕВІЧ

## ◆ СВІЦЯЗЬ ◆

*(Урывак)*

Калі навагрудскія ўбачыш прасторы,
Ракітнік разгалісты, нізкі, —
Каня супыні ля плужынскага бору,
Каб глянуць на возера зблізку.

Гушчар лесу пахне чаборам і мёдам,
Жывіцы настоем смалістым.
Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду,
Ляжыць паміж дрэваў цяністых.

Калі пад'язджаеш начною парою
І станеш да возера тварам, —
Мігцяць зоркі ў небе, мігцяць над табою,
Мігціць там і месяцаў пара.

Не знаеш, — з-пад ног, можа, гэта шкляная
Ідзе аж да неба дарога
Ці неба шкляное скляпенне схіляе
Табе аж пад самыя ногі!

І той, другі, бераг убачыць не ў сілах —
З вышынямі возера зліта.
Нібыта вісіш ты на птахавых крылах
У нейкім бяздонні блакіту!

Так ноччу прыемна памыляцца вочы
Пры добрай, пры яснай пагодзе.
Ды толькі да возера зорнага ноччу
З храбрэйшых храбрэц падыходзіць.

Бо там выробляе нячысцік такое!
Між хваль вадзяны там плюскоча.
Дрыжу, як дзяды мне гавораць пра тое,
Успомніць аж страх перад ноччу.

То ў возеры гоман, то лямант вялікі,
То ўспыхне агонь сіняваты.
Гул бітвы, лязг зброі, жаночыя крыкі,
Галошанне, звону раскаты.

А ў міг — дым асядзе і крык суціхае,
І толькі лес ціха шапоча,
Ды ў возеры хтосьці малітвы чытае,
Чуваць сумны голас дзявочы.

А што гэта? Людзі плятуць хто што зможа,
На дно ж з іх ніхто не спускаўся.
То гэтак раскажуць, то йнакш казку зложаць,
А хто з іх да праўды дабраўся?

*Пераклад А. Бялевіча*



*Возера Свіцязь. (У сярэдзіне нумара чытайце «Легенда і быль Свіцязі»).*




## НА БЕЛЬСКІМ ВАКЗАЛЕ

Нахадзіўшыся дарогамі і сцежкамі Бельшчыны, вяртаюся туды, адкуль выйшаў: на бельскі вакзал. Адыходзяць адсюль ва ўсе бакі цягнікі і аўтобусы пэкаэсу.

Спякотны летні дзень. На людзях відаць пот і стома. Хочацца прысесці. На бельскім вакзале кожны можа прысесці, дзе яму падабаецца: на траве, пад дрэвам ля дарогі, на расстаўленых на вакзале лаўках. Пасажыры ахвотна карыстаюцца гэтым правам. Мужчыны густа абселі траву ля будкі з півам, парасстаўлялі перад сабой куфлі, гутараць аб мінулым дні, аб сваіх дзелавых справах і аб розных дробязях. Далей ад піўной будкі вясковыя жанчыны з клункамі (пакупкі) адпачываюць пасля гарадской бегатні.

Сядаю далей ад будкі з півам і падхмеленых мужчын.

— Колькі людзей, колькі людзей, — ні то да сябе ні то да мяне гаворыць старая худая жанчына, рассеўшыся побач на траве. — Сотні людзей ужо паехала. Народ цячэ, як вада. І куды, здаецца, і чаго?

— Кожны мае нейкія справы, — кажу.

— Я маю двое дзяцей: сына і дачку. Сын добры, з кожным пагаворыць, пастарує, пасмяецца, а дачка — не, зусім не тое. Дрэнная.

— Дзеці часта бываюць неаднолькавага характару, заўважаю аб'ектыўна.

Жанчына змоўкла, быццам задумаўшыся над гэтай аб'ектыўнай праўдай, а потым, прыпомніўшы сабе нешта, запытала:

— Цяпер гавораць, што як хто так з кожным пастарує, пагаворыць, пасмяецца, кожнага зачэпіць, — то дурань. Што б вы, пане, сказалі на гэта?

Працяг на стар. 4

ІМ ТОЛЬКІ 15 ГОД




Гаснуць, скачучы, нябачныя агні ў тэатральнай зале. Нейкі момант стаіць цемень. Ды раптоўна на сцэну кідаюць свае яскравыя праменні рэфлектары. Замірае апошні шорах публікі. Шэрая куртына ідзе ўверх. Рэфлектар паволі спускаецца ніжэй. Затрымаўся... Калі ласка: перад вамі Гарадок! Адна з найбольш аўтэнтычных і найбольш цікавых з'яў у культурным жыцці Беласточчыны і краіны.

Жанчыны на сцэне заварушыліся, захвалявалі спадніцамі, а зала ўжо гудзе ад браў, а яны святочным гарадоцкім крокам набліжаюцца. Паплыла песня. Вольная, раздольная. То прыціхае, то ўзмацняецца, нібы ветрам Беласточчыны падганяемая. Марозіць плечы холадам, а сэрца аблівае кіпятком. Песня зямлі роднай, найпрыгажэйшай. Іхняя песня — гарадоцкіх жанчын.

Культурна-грамадская з'ява, імя якой ў скарачэнні Гарадок, не дачакалася сваёй манаграфіі, хоць хтосьці цікаўны знайшоў бы тут багатую крыніцу ведаў пра людзей, іх думкі, іх мары і імкненні.

Славай авеяны самародныя гарадоцкія частушкі, аўтарства Ніны Мушынскай. Адна з іх занялася высненнем слухачу істоты Гарадка. Вось яна:

Недалёка ад граніцы,
Над Супрасляю-ракой
Гарадок стары гадамі
Сеў, бы бусел, над вадой.
То не горад і не вёска,
Проста так, як вам сказаць,
Жывуць людзі, бульбу вараць,
Так гады ім і ляцяць.
Гарадок традыцыі мае
І дзяўчат прыгожых шмат,
Прыжэняць любога хлопца —
Не дажджэцца да каляд.

Пятнаццаць год таму назад пачаўся ў Гарадку бурлівы грамадска-культурны рух. На яго хвалі гэты «не горад і не вёска» вынырнуў на шырока вядо-

*(Працяг на стар. 3)*



*Тыповая для Гарадка сельская свабодная сцэна. Сабраліся дзяўчаты — Гэлена Кот і Ірэна Паўлючук (стаяць спераду), — зацягнулі песню, іншыя падхапілі. Стаяць (злева) Яўгенія Дарашкевіч, Раіса Лісоўская, Валянціна Крысюк, Галіна Жукоўская, Данута Арэховіч, Гэлена Кот, Ірэна Паўлючук. Сядзяць (злева) Люба Сэвэрын, Яніна Налівайка, Тамара Бурачэўская, Ірэна Кардаш, Раіса Дылько, Ніна Цываню (углыбі) Ліля Меляшко, Ніна Мушынская, Зося Пашкоўская, Раіса Лісоўская, Сцяпан Копа.*

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### ПАРАФІРАВАННЕ ДАГАВОРУ СССР — ФРГ

7 жніўня г.г. у Маскве парафіраваны дагавор паміж СССР і ФРГ. Пад дакументам паставілі свае подпісы міністры замежных спраў Савецкага Саюза і ФРГ — Андрэй Грамыка і Вальтэр Шэль.

Наступным этапам будзе падпісанне гэтага дагавору пасля зацвярджэння яго ўрадамі абедзвюх краін.

Дагавор увойдзе ў сілу пасля ратыфікацыі яго парламентамі Савецкага Саюза і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.

Пакідаючы Маскву, міністр Шэль заявіў на аэрадроме: «Мы закончылі доўгія і складаныя перагаворы. Удалося давесці іх да задавальняючых абодва бакі вынікаў. Пагадненне, да якога мы дайшлі, стварае перспектыву на будучыню. Яно павінна адкрыць новую карту ў суадносінах паміж Савецкім Саюзам і Федэратыўнай Рэспублікай Германіі. Наша мэта — садзейнічаць большай бяспецы і больш плённаму суіснаванню паміж імі (народамі ўсходняй і заходняй Еўропы — ак). Пакідаем Маскву з пачуццём, што пакладзены салідныя асновы пад такое развіццё суадносін, да якога мы імкнуліся».

Прадстаўнік англійскага ўрада заявіў, што парафіраванне дагавору СССР — ФРГ з'яўляецца найбольшым здарэннем у кантэксце паляпшэння суадносін паміж Усходам і Захадам, і яго можна лічыць першым крокам на цяжкім шляху да вырашэння некаторых сур'ёзных не ўладжаных яшчэ праблем у Еўропе.

### МОЛАДЗЬ У СЕЛЬСКАГАСПАДАРКУ

Больш моладзі ў савецкую сельскую гаспадарку!

Гэты лозунг змяшчаецца ў плане паляпшэння сітуацыі ў сельскай гаспадарцы, які падрыхтаваў Цэнтральны Камітэт КПСС і ўрад СССР. У плане далейшага развіцця сельскай гаспадаркі пакладзены таксама націск на большае матэрыяльнае зацікаўленне калгаснікаў і работнікаў, якія займаюцца скупкай і продажам сельскагаспадарчых тавараў.

### ЗАМЕШКІ

Толькі на працягу пятнаццаці месяцаў у Злучаных Штатах было 41 тысяча бомбавых замахаў або пагроз падкінуць бомбу. Загінула 43 асобы, а 384 было паранена. Матэрыяльныя страты ацэнены на 21 мільён долараў. 56% замахаў было звязана са студэнцкімі хваляваннямі.

### СПЫНЕННЕ АГНЮ

Паміж Егіптам і Ізраілем падпісана пагадненне адносна спынення агню на 90 дзён. Гэты дакумент адобрылі чатыры вялікія дзяржавы і перадалі яго Гунару Ярынгу, які будзе выконваць сваю місію. Місія Ярынга на Блізкім Усходзе звязана з ажыццяўленнем рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН з 22 лістапада 1967 года.

### ТЭАДАРАКІС

У Маскву прыбыў з сям'ёй грэчаскі кампазітар Мікас Тэадаракіс. Быў ён запрошаны на адпачынак і лячэнне ў Савецкі Саюз Саюзам савецкіх кампазітараў. (ак)



## БССР

### СПАЖЫВЕЦКАЙ

АдбыўсяVIII з'езд спажывецкай кааперацыі Беларусі. Са справаздачным дакладам на з'ездзе выступіў першы намеснік старшыні праўлення Белкаапсаюза Т. Стрыжак.

У спрэчках па дакладу выступілі м. ін. сакратар Свіслацкага раённага камітэта КП Беларусі А. Дземянцей, старшыня Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта А. Зайцаў і інш.

З прамовай на з'ездзе выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі А. Смірноў.

Дэлегаты і госці зрабілі паездку ў Лагойскі раён, дзе азнаёміліся з вопытам работнікаў спажывецкай кааперацыі гэтага раёна.

### ПЕРШАЯ

Першая серыя халадзільнікаў пяці новых мадэляў выпушчана Мінскім заводам. У гэтых апаратаў ёмкасцю ад 120 да 240 літраў тры чвэрці вузлоў і дэталяў уніфікавана, што значна спрашчае іх абслугоўванне і рамонт.

### РЭСПУБЛІКАНСКІ

У Віцебску адбыўся XII рэспубліканскі злёт турыстаў. Ва ўрачыстасці злёту прыняў удзел першы сакратар Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі Уладзімір Падрэз, які выступіў з прамоваю.

Адбыліся спартыўныя баталіі.

### «ГАРЫЗОНТ — 101»

Тэлевізар «Гарызонт — 101» створаны канструктарамі Мінскага радыёзавода. Рыхтуецца серыйны выпуск гэтага тэлевізара. Новы тэлевізар адрозніваецца лепшай якасцю.

### НАРОДНАГА

Прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафесіянальных саюзаў прысвоіў званне народнага тэатра драматычнаму калектыву Палаца культуры Мінскага камвольнага камбіната.

### РЫБАКА

Святкаваўся Дзень рыбака. У інтэрв'ю друку начальнік Упраўлення рыбнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР В. Бяляеў сцвердзіў, што асноўнымі крыніцамі прамысловай лоўлі рыбы на Беларусі з'яўляюцца азёры: Браслаўскія, Лепельскія, Полацкія, возера Нарач. У мінулым годзе было вылаўлена сорак тысяч цэнтнераў азёрнай рыбы. Цяпер паспяхова развіваецца сажалкавая рыбная гаспадарка.

### ДЭЗАЙНЕРАЎ

Першы выпуск дэзайнераў — мастакоў-канструктараў па прамысловай эстэтыцы — адбыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Да абароны прадстаўлена шэраг цікавых дыпломных праектаў па вонкаваму афармленню самаходнага шасі, лёгкага матацыкла, пульта кіравання палётамі самалётаў грамадзянскай авіяцыі, станкоў, бытавых радыёпрыбораў і іншых вырабаў.

### ПАСТАЯННЫЯ

Тысяча восемсот кіраўнікоў харавых, танцавальных, драматычных калектываў і аркестраў духавых інструментаў выпусцілі за дзевяць гадоў Рэспубліканскія пастаянныя курсы па падрыхтоўцы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці.

### «ЛЯВОНІХА»

Народны ансамбль «Лявоніха» Мінскага трактарнага завода святкуе сваё дваццацігоддзе. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### СПЕЦЫЯЛІСТЫ

Нягледзячы на летні перыяд і сезон водпускаў, ідзе гарачая праца камісій па ўвядзенню стымулаў матэрыяльнага зацікаўлення. Прымаюць у іх удзел, апрача прадстаўнікоў дырэкцый і партыйных арганізый, таксама прадстаўнікі розных навукова-тэхнічных аб'яднанняў. Замала аднак у гэтых камісіях вучоных — экспертаў, якія маглі б прымаць вялікі ўдзел у распрацоўцы шэрагу праблем. прадукцыі. Стан падрыхтоўкі да ўвядзення новай сістэмы эканамічных стымулаў прааналізавала эканамічная камісія Цэнтральнай рады прафсаюзаў.

### ПАЗЫКІ

У I паўгоддзі гэтага года гаспадары выкарысталі на 500 мільёнаў злотых менш пазык, чымсьці за аналагічны перыяд мінулага года. Прычынай гэтага з'яўляецца недастатковае забеспячэнне сельскай гаспадаркі ў першых месяцах гэтага года сродкамі прадукцыі і будаўнічымі матэрыяламі. Недахопы гэтыя былі вынікам цяжкасцей у камунікацыі, выкліканымі доўгай зімою.

### ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЯ

У сувязі са жніўным сезонам аб'яднанне энергетыкі зрабіла шэраг захадаў для безаварыйнага забеспячэння вёскі электраэнергіяй. Між іншым, у гэтым перыядзе электрастанцыі краіны атрымалі заданне павысіць сваю моц.

### ЗАЙЦЫ І КУРАПАТКІ

Пасля цяжкай зімы прырода выраўноўвае свае страты. Дзякуючы высокаму сёлеташняму прыросту зайцаў, колькасць іх значна ўзрасла. Горш з курапаткамі. У гэтым годзе іх напалову менш, чымсьці ў мінулым. У сувязі з гэтым паляванне на курапаткі значна абмежавана.

### МАРГАРЫН

Спецыялісты аб'яднанай алейнай прамысловасці ў Варшаве апрацавалі новыя рэцэптуры маргарыну, якія ў наступным годзе пачне прадукаваць наша прамысловасць.

### ТЭЛЕБАЧАННЕ

1 кастрычніка польская тэлевізія пачне надаваць II тэлевізійную праграму. У пачатковым перыядзе надаваць яе будзе толькі Варшава, Лодзь, Кракаў і Катовіцы. У меру разбудовы новую праграму надаваць пачнуць і іншыя рэгіянальныя цэнтры.

### БУРШТЫН

У час археалагічных раскопак у Камарове павета Шаматулы адкапана багатая калекцыя бурштыну (звыш 100 кавалкаў) з-прад 2500 гадоў. Такім чынам поўнасцю пацвердзілася гіпотэза археолагаў, што жыхары гарадзішча, у якім вядуцца раскопкі, займаліся пасрэдніцтвам у гандлі бурштынам.

### ЗМЕНЫ

У 1970—1975 гады праведзена будзе шэраг змен ў сетцы пачатковых школ. Неабходнасць змен выклікана дэмаграфічным ніжам (малой колькасцю дзяцей у школьным узросце). (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ЧЫН ПЕРАМОГІ

Калектывы беластоцкіх прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці паспяхова выконваюць узятыя на сябе абавязацельствы ў гонар 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна, 25-ай гадавіны перамогі над фашызмам і Свята Адраджэння. 16500 рабочых ўзялі на сябе прадукцыйныя абавязацельствы на суму 22 мільёны злотых. Да гэтага часу выканана ўжо 72% працы. Напрыклад, у Бельскай рашарні зменшаны страты пры мачэнні ільну і такім чынам дадаткова атрымана 63 тоны льняной саломы. У Беластоцкай гарбарні выпрадукавалі дзякуючы абавязацельствам дадаткова 878 кв. метраў мяккіх скур.

### УГНАЕННІ Ў ЖНІЎНІ ТАННЕЙШЫЯ

За ліпень — першы месяц новага гаспадарчага года — было прададзена значна больш угнаенняў, чым за гэты ж час мінулага года. Некаторыя паветы перавысілі паказнік мінулага года ў некалькі разоў. Але і гэта яшчэ недастаткова. Мінеральныя ўгнаенні прадаюцца па зніжанай цане яшчэ і ў жніўні. Таму варта знайсці хвіліну часу і закупіць мінеральныя ўгнаенні цяпер, сэканоміўшы частку грошай. Як падала Хімічна-сельскагаспадарчая станцыя, сярод паветаў нашага ваяводства слабыя вынікі ў распаўсюджванні мінеральных угнаенняў маюць Ломжынскі, Гайнаўскі і Кольненскі паветы.

### МОЛАДЗЬ НА ЖНІВЕ

1300 членаў ЗМВ удзельнічала ў жніўнай акцыі, якая праводзілася пад лозунгам «Кожны колас на вагу золата». Асабліва добра папрацавала моладзь у Баціках Бліжэйшых, Крупіцах, Клюковічах і Мілейчыцах.

### УЗРОСТ КАТАСТРОФ НА ДАРОГАХ

Як інфармуе Аддзел дарожнага руху Ваяводскай міліцыі, за I паўгоддзе гэтага года ў Беластоцкім ваяводстве здарылася 361 катастрофа на дарогах, у якіх загінула 40 чалавек, а 334 было цяжка паранена. У параўнанні з I паўгоддзем мінулага года здарылася на 56 катастроф больш і на 10 чалавек больш загінула.

### ШМАТ ТАПЕЛЬЦАЎ

За летнія месяцы гэтага года ў нашым ваяводстве ўтапілася ўжо 33 чалавекі, у тым ліку 19 дзяцей. Гэтыя страшэнныя лічбы павінны стаць перасцярогай для бацькоў і моладзі. Найбольш выпадкаў утаплення здарылася ў месцах, дзе купанне забаронена.

### ГАНДАЛЬ ПЕРАД І ВЕРАСНЯ

Беластоцкі гандаль лепш, чым у мінулым годзе, падрыхтаваўся да новага навучальнага года. Прадпрыемства гандлю пісьменнымі таварамі падрыхтавала паўмільёна даўгапісаў, шмат рознай фарбы, алоўкаў, лінеек і розных іншых рэчаў, неабходных для вучняў.

Усе гандлёвыя прадпрыемствы разам падрыхтавалі да пачатку навучальнага года 7—8 мільёнаў тонкіх сшыткаў, 1,5 млн. падвойных сшыткаў, 1,4 млн. 60-лістовых сшыткаў і 900 тыс. брульёнаў. У палове жніўня пачынаюцца па ўсім ваяводстве школьныя кірмашы. (яч)




*Niedziela 16. VIII.*

8.35 Program dnia; 8.40 „Przypominamy, radzimy; 10.30 „Taki duży chłopiec" — film fab. radz.; 11.50 „Grają orkiestry dęte"; 12.10 Dziennik; 12.25 „Przemiany"; 12.55 Teatrzyk dla przedszkolaków; 13.30 „Raport" — rep.; 13.55 „Kapelusz słomkowy" — film fab. węg.; 15.05 „W obiektywie"; 15.35 „Portrety"; 16.15 PKF; 16.25 „Podróż do Tomahawk" — film fab. 17.55 „Warszawska Jesień"; 18.40 „Tragiczne dzieje Signory Eleny" — nowela film. hiszp.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Od melodii do melodii" (Berlin); 21.15 „Wspaniały rogacz" — film fab. wł.; 22.15 Magazyn sportowy.

*Poniedziałek — 17.VIII.70*

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 17.30 Echo stadionu; 17.50 „W Kolumbii i Ekwadorze"; 18.00 Magazyn ITP; 18.15 „Tańczy Irina Kołpakowa" — film baletowy radz.; 18.45 Eureka; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 VII Telewizyjny Festiwal Teatrów Dramatycznych — „Non stop"; ok. 21.45 Kino Filmów Animowanych (program rumuński); 22.20 „The Patterson Singers" — Program muzyczny; 22.45 Dziennik; 23.00 Program na jutro.

*Wtorek — 18.VIII.70*

10.00 „Oblężenie Pinchgut" film fab. ang.; 11.40 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Oblężenie Pinchgut" — film fab. ang.; 21.45 „Polska zza siódmej miedzy"; 22.15 Dziennik; 22.30 Program na jutro.

*Środa — 19.VIII.70*

10.00 „Małżeństwa z rozsądku" — film fab. czechosł. — cz. IV; 11.30 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.20 PKF; 18.35 Telewizyjny Kurier Warszawski; 18.50 „Meteorologia i my"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Małżeństwa z rozsądku" — film fab. czechosł. — cz. IV; 21.35 Światowid; 22.05 Film; 22.30 Dziennik; 22.45 Program na jutro.

*Czwartek — 20.VIII.70*

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 „Ludzie z wyspy" — film prod. ang.; 17.25 Telewizyjny Kurier Lubelski; 17.40 Reklama w piosence; 18.00 „Dom pod strzechą"; 18.30 „Dziwna podróż pani Dubois" — nowela filmowa franc.; 19.00 Rozmowy o książkach; 19.15 Przypominamy, radzimy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Niebezpieczny proceder" — film fab. NRD; 21.00 „Wyniki eksperymentu"; 21.50 „Cyrograf dojrzałości" — polski film telewizyjny; 22.45 Dziennik; 23.00 Program na jutro.

*Piątek — 21.VIII.70*

10.00 Poranki młodości — film fab. rum.; 11.35 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 17.30 Zapowiedź dnia rumuńskiego; 17.35 „Hora" — film dokument. o Rumunii; 18.00 „Rumuńskie Madrygały" — film muzyczny; 18.10 „Powódź" — film dokument. TV rum.; 18.40 „Taniec Cadului" — film folklorystyczny; 18.50 „Piosenki Bukaresztu" — film rozrywkowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Przemówienie Ambasadora Socjalistycznej Republiki Rumunii; 20.10 „Rumunia nieznana" — film dokument.-krajoznawczy; 20.30 Magazyn „Kraj"; 21.10 „Poranki młodości" — film fab. rum.; 22.45 Pożegnanie gościa z TV Rumuńskiej; 22.45 Dziennik; 23.00 Program na jutro.

*Sobota — 22.VIII.70*

10.00 „Najtrwalsza miłość" — film fab. ameryk.; 11.55 Przerwa; 14.30 Program dnia; 14.35 Telewizyjny Kurs Rolniczy „Lato 70"; 15.10 Program Tygodnia; 15.30 „Oferty" 15.40 Przerwa; 16.40 Program dnia; 16.45 Dziennik; 17.00 Transmisja finału Pucharu Europy kobiet w lekkoatletyce; 19.25 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.15 „Najtrwalsza miłość" — film fab. ameryk.; 22.10 Dziennik; 22.30 Kabaret Starszych Panów „14 i 3/4"; 23.30 Program na jutro.




Piątek, 14.VIII.

8.05 Nowiny; 8.15 Festiwal młodych. Koncert szkolnych zespołów; 8.45 Wychowanka. Spektakl telewizyjny; 10.10 Nowiny; 15.00 Program; 15.05 Nowiny; 15.20 Program dla dzieci; 16.00 Eureka. Czasopismo telewizyjne; 16.35 Panorama nowin; 17.00 Zawody gimnastyczne; 22.00 Koncert artystów z Swierdłowska. 21.00 Czukokała — film dokumentalny. 21.00 Nowiny.

Sobota, 15VIII.

8.00 Program; 8.05 Gimnastyka; 8.30 Nowiny; 8.45 Progam dla dzieci. Śpiewa Borys Amyra; 10.00 Instytut SKB; 10.25 Szkatułka muzyczna; 10.40 Przegląd międzynarodowy; 11.40 Poemat pedagogiczny — film; 13.00 Horyzont. Program z Leningradu; 14.30 Nowiny; 14.35 Kronika półwiecza. Rok 1947; 17.30 Sport. Zawody drużyn ulicznych; 18.00 Spektakl Omskiego Teatru; 19.30 Reportaż z pola; 19.45 Wieczny ruch — film dokumentalny; 20.45 Mistrzowskie zawody sportowe; 21.10 Koncert klasycznej muzyki; 21.40 Nowiny.

Niedziela, 16.VIII.

7.00 Program; 7.05 Gimnastyka; 7.15 Nawiny; 7.30 Turniej sprytnych; 8.00 Program lotników; 8.30 Teatr telewizyjny dla dzieci; 9.10 Ludzie ziemi i nieba. Film dokumentalny; 10.05 Malarze Tadrzykistanu; 10.30 Klub szachistów telewizyjnych; 11.00 Ekran dla dzieci; 11.10 Almanach telewizyjny; 12.10 Program dla wojska; 12.40 Kiosk muzyczny; 13.10 Świat socjalizmu. 13.30 Film francuski „Mieszczanin szlachcicem. 16.00 Nowiny; 16.05 Reportaż z pola; 16.30 Piosenki kompozytorów rosyjskich; 18.00 Czas; 18.30 Koncert; 19.25 Nasi sąsiedzi — Teatr miniaturowy; 20.10 Sport; 21.00 Koncert z Leningradu; 21.45 Nawiny.

 

## Наш Каляндар

# АЛЕСЬ ЖАЎРУК

**60 год таму, 19 жніўня 1910 г. у горадзе Раслаўлі нарадзіўся беларускі паэт Алесь Жаўрук. Пасля сканчэння педагагічнага тэхнікума ў 1934 г. паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры (вучыўся ў ім і вядомы савецкі паэт Аляксандр Твардоўскі. Алесь Жаўрук займаўся таксама ў аспірантуры Акадэміі навук БССР.**

**Пісаць вершы пачаў у дзіцячыя гады. Першыя творы з'явіліся ў друку ў 1926 г. Праз дзесяць год выйшаў з друку зборнік «Ручаіны», а ў 1938 г. — кніга «Дняпро выходзіць з берагоў».**

**Алесь Жаўрук загінуў на фронце ўлетку 1942 г.**

## „РУЖА"

*А ці міг ці век — не знаў ніхто там,*
*Колькі моўчкі праляжалі мы*
*На краі сыпучага сумёта*
*Пасярод марознае зімы.*

*Толькі раптам лютаўская сцюжа*
*Адступіла быццам, адлягла.*
*Чую і не веру сам я — «Ружа»:*
*«Ой, расцвіла ружа, расцвіла...»*

*Азірнуўся: ціха ў задуменні*
*Сам сабе спявае зампаліт.*
*Слухаем. І нікне поўнач ценем,*
*Іншыя ўстаюць хлапцам палі.*

*Случчына каму, каму ў песні*
*Амсціслаўшчына яго ўстае,*
*Мне ж — рачэнскі край, маё Палессе,*
*Вербы, вочы ясныя твае.*

*І узбек, сусед мой, вочы мружыць*
*(Што ён прыгадаў у той цішы?),*
*Слухаў, слухаў і ўсміхнуўся: «Ружа.*
*Ружа, — зноў ён паўтарыў, — якшы».*

*І да самае атакі потым*
*Больш не думалі аб сцюжы мы*
*На краі сыпучага сумёта*
*Пасярод марознае зімы.*

*Так заўжды хвілінамі цяжкімі*
*Саграваеш ты, Радзіма, нас*
*Зор сваіх святлом, ,вялікім імем,*
*Шчыраю парадай ў добры час!*

*Вестачкай паштоўкі нечаканай,*
*Пачкам папярос, здалёк прысланым,*
*Песняю сардэчнаю сваёй,*
*Проста думкай аб табе адной.*
*Мажайск, 1942 г.*

*Алесь Жаўрук*






*Унікальны дуб-трояк расце ля возера «Свіцязь».*

Арганізацыя запаведнікаў, заказнікаў, аб'яўленне розных аб'ектаў прыроды помнікамі — адна з важнейшых форм аховы прыроды ў нашай рэспубліцы. Такая ахова прыродных комплексаў і асобных іх элементаў вельмі неабходная ва ўмовах паскоранага развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі, росту гарадоў і іншых населеных пунктаў. І гэта зразумела, бо цяпер пры імклівай забудове або ўцягненні ў гаспадарчы абарот усё новых тэрыторый больш складана захаваць у натуральным стане тую ці іншую нават невялікую тэрыторыю.

Вось чаму Савет Міністраў БССР пастановай ад 18 чэрвеня 1970 года аб'явіў дзяржаўным ландшафтам-заказнікам рэспубліканскага значэння возера Свіцязь і вакольны лясны масіў Свіцязянскага лясніцтва Навагрудскага лясгаса агульнай плошчай 1017 гектараў. Заказнік размешчан у 20 кіламетрах на поўдзень ад Навагрудка, каля вёскі Валеўка. У адпаведнасці з пастановай, возера выключаецца са спісаў вадаёмаў, замацаваных за прадпрыемствамі ўпраўлення рыбнай прамысловасці, і, значыць, у ім забараняецца промыславы адлоў рыбы. Апрача гэтага, на тэрыторыі заказніка забаронены: суцэльныя высечкі лесу, апрача санітарных, правядзенне гідрамеліярацыйных работ, забудова тэрыторыі, расчыстка воднай і прыбярэжнай раслліннасці, паляванне на дзікіх жывёлін, птушак і нават выкарыстанне маторных лодак, бо яны нафтапрадуктамі атручваюць ваду.

Чым жа выклікана такая ўвага да возера і навакольнай мясцовасці? Гісторыя і прырода з яе спрадвечнымі загадкамі, быццам дамовіўшыся, стварылі тут цудоўную казку.

Горад Свіцязь, гаворыць паданне, у час нападу варожага войска па просьбе безабароннага насельніцтва праваліўся, і на месцы яго ўтварылася возера. Жыхары былі ператвораны ў кветкі.

На самай справе, сцвярджаюць вучоныя, гэта возера правальнага тыпу і ўтварылася ў выніку карставых з'яў. Кветкі? Іх тут вельмі многа, і самых разнастайных. А палічыце, колькі ў самім возеры рэліктавых раслін: лабелія дортмана, пагушнік азёрны, прыбярэжнік аднаклетачны, наяда і мноства іншых...

Свіцязь — возера арыгінальнае. Тут вабіць усё: і легенда пра горад, і старажытныя загадкавыя курганы, і разнастайнасць лясных насаджэнняў, багатых грыбамі і ягадамі, і, нарэшце, само возера з яго маляўнічым наваколлем. І ўсё ж самым важным з'яўляецца навуковая каштоўнасць возера. Тут, акрамя пералічаных рэліктавых раслін, можна сустрэць надзвычай рэдкую раслінную форму — тэтрадыніум яванікум, якая знойдзена толькі на Яве, або жывёльную форму — планорбіс стэльмактыкус, вядомую толькі ў Францыі, Бельгіі і Германіі. Чаму яны апынуліся тут? Такіх пытанняў можна задаць мноства.

Возера ўжо даўно стала месцам паломніцтва турыстаў, якія прыязджаюць сюды з усіх куткоў Беларусі і іншых рэспублік.

*В. Бяльковў*

(«Голас Радзімы»)

Фота Э. Трыгубовіч

Пачатак на стар. 1




мы цяпер цэнтр сапраўды народных традыцый і звычаяў. Галоўную ролю ў гэтым цэнтры ад пачатку адыгрывалі і адыгрываюць далей гарадоцкія жанчыны.

А зараз тут прадставіць хочам ветэранаў гарадоцкай працы: найпершым з'яўляецца Ніна Мушынская. Потым Ніна Цыванюк, Люба Сэвэрын, Оля Нядзведзева, Ірэна Паўлючук. Былі доўга ў калектыве, ды адышлі Саша Яроцкая — частушачніца дасканалая, Надзя Парэмбская — прыходзіць і цяпер паслухаць, ,як спяваюць іншыя, Насця Цыванюк — што старыя-прастарыя песні помніць, Майсачыха, а дакладна Софія Майсак, Вера Кардаш — цяпер ў калектыве яе дачка спявае Іра Кардаш.

Ніна Мушынская помніць многа, помніць пачаткі. І ўспамінае: не было тады ніякага рэпертуару. Тыя вось жанчыны старэйшыя мелі свае песні, якія вывучаў увесь калектыў. Ад Насці Цыванючкі я ўзяла прыгожую песню — мы яе назвалі «Ружа-кветка». А пачынаецца словамі — «Ой, баліць жа галованька». Потым памалу знаходзілі іншыя.

Не самой песняй жыў Гарадок. Ставілі п'есы («Паўлінку мы ставілі, як Купаліха прыехала да нас»), складалі частушкі, пісалі гумарэскі для радыёвузла, стваралі вакальна-слоўныя мантажы, чыталі вершы, рыхтавалі сабе патрэбныя тэатральныя рэквізіты, арганізавалі вечарыны і з'езды, як нідзе больш, міла прымалі гасцей — блізкіх і далёкіх, сваіх і замежных; за заробленыя на канцэртах грошы будавалі святліцу ў суседнім Страшаве і арганізоўвалі дзіцячы сад у Гарадку. Выходзілі замуж, гадавалі дзяцей і мужоў, уквечвалі і абсаджвалі дрэвамі вуліцы роднай мясціны. Былі неадлучнымі памочнікамі пры будове Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку, куды цяпер сходзяцца на рэпетыцыі познімі вячэрнімі гадзінамі, пасля таго, як управяцца ў гаспадарцы, а іншыя — пераважна маладыя — як вернуцца з работы на мясцовай тэкстыльнай фабрыцы.

Ніна Мушынская — нязмучаны інспіратар і ініцыятар гарадоцкай работы. У апошні час спісала свае ўспаміны — багаты дакумент куска новай гісторыі Гарадка, яго людзей і перамен. Чытаю якраз пра гэта. Пра тое, як у пачатку сваіх 15-ці год гарадоцкія жанчыны ўпершыню заспявалі ўласнага складу частушкі. Былі гэта частушкі пра жанчын і спяваліся на жаночае свята 8 сакавіка:



*«Ой пайду я па-над лугам», — спявае Ніна Цыванюк, усе 15 год у калектыве, поўная энергіі і кіпучага гумару.*

Бабы нашы дык аджылі,
Не хочуць кудзелі прасць,
Лён, як толькі збяруць з поля,
Дык хутчэй нясуць мяняць.

Мяняць, прыпомнім, на фабрычныя матэрыялы — тонкія і каляровыя.

Прыпамінаюць таксама гарадоцкія жанчыны «аднойчы вечарам» даўнейшы Гарадок, супастаўляючы яго з цяперашнім:

Прыпомнілі мы сабе,
Як за бацюшкі-цара
На вёсцы была толькі
Чобатаў адна пара.

Вось к прыкладу скажам вам:
Грыбавец шоў у Гарадок,
Нёс чобаты на плячах,
Павесіўшы на калок.

Слухаючы такія гарадоцкія частушкі ў прыгожай зале тэатра Вянгеркі ў Беластоку, Нацыянальнага тэатра ў



 

Пачатак на стар. 1

# З ЗАПІСАК ПЕШАХОДА

## НА БЕЛЬСКІМ ВАКЗАЛЕ

— Па-мойму, гэта вельмі добра.

— І па-мойму таксама. Калісь, ведаеце, людзі былі лепшымі — не мондрыліся так, не задаваліся, а цяпер не загавары нават да нікога. Сын у мяне ўдаўся, дай божа яму здароўе, а дачка зусім, як бацька — гарадскі прайдзісвет.

— То муж ваш з горада?

— Аж з Чэнстаховы.

— ???

— Была вайна. Тая першая, яшчэ царская. Нас вывезлі ў бежанства ў Расію. Я была маладзенькай дзяўчынкай. Пасля рэвалюцыі мы хацелі вярнуцца дадому. Па дарозе ўспыхнула сярод бежанцаў нейкая зараза. Немцы сагналі ўсіх бежанцаў у адзін лагер і чакалі, пакуль міне зараза. Потым заладавалі ўсіх у вагоны і павязлі ў Германію на работы. Там я пазнаёмілася са сваім мужам. Пасля вайны вярнулася з ім у Орлю. Муж загінуў у апошнюю вайну. А дзеці разышліся — дачка ў Варшаве, а сын — у Зялёнай Гуры. Асталася я адна. Вось і такое маё жыццё, — ціха закончыла жанчына.

— Дзеці памагаюць вам? — пытаю.

— Дзе ж там, — адказвае жанчына. — Яшчэ я ім мушу дапамагаць. А навошта мне іх дапамога? Маю 800 злотых пенсіі — мне хапае. Аж замнога. Есці нічога ўжо не магу, апрача малака ды булачак. Пасылала калісь сыну грошы — то 500, то 300 злотых. Бяда была ў яго. Жонка памерла ў час родаў, застаўся з трыма дзецьмі. А потым ажаніўся, узяў жонку з дачкою, і яшчэ адно дзіця прыжылі. Восем душ у хаце і ён адзін толькі працаваў — жарты! Ой меў бяды, але ўжо неяк выкарашкаўся. Дзеці падраслі: аднаго сына ўладзіў у слясарню, другога — ў сталярню, а трэцяга — ў пякарню.

— Зарабляюць ужо?

— Так, зарабляюць. Добрыя дзеці. І ён добры чалавек, гэты сын мой — і пагаворыць з кожным, і паспявае, і пасмяецца. Дачка не такая. Куды там. Кажа да мяне: «Матко, я з табою не буду размаўляць, бо ты не ўмееш». Не будзеш, то і не трэба. Як прыедзе, то не пабудзе больш у мяне, як два дні. Усё ёй не падабаецца. А людзі кажуць часам: «Кідала б усё і ішла б да дачкі ў Варшаву». Чаго я там паеду!

Жанчына скончыла, спакойна ўглядаючыся ў натоўп пасажыраў, пхаўшыхся да пад'ехаўшага аўтобуса. Побач дзве жанчыны вядуць сваю гутарку.

— А Нінка ваша таксама, здаецца, у горадзе.

— А так, у горадзе.

— Можа ўжо і замуж выйшла?

— О, выйшла ўжо два гады, як замужам. Добрага мае мужа. Спакойны і вучоны. Ён кіраўніком... кіёску.

— З півам?

— Не, з газетамі. Чаго яму там з півам заводзіцца. Ён увогуле не п'е.

Чарговы аўтобус рушыў у дарогу. Мая субяседніца яшчэ на момант вярнулася да сваёй тэмы.

— Цяпер людзі не такія, як калісь. Усе такія ганаровыя, мондрыя, страшна і адзывацца. Як хто так от любіць з кожным пагаварыць, то зараз скажуць, што дурань.

*Ул. Паўлючук*




### «БЕЛАСТОЦКІ ГАДАВІК» АБ ГРЫБАЎСКАЙ СЕКЦЕ

Нядаўна выйшаў друкам IX том «Беластоцкага гадавіка»*). У першым раздзеле аўтары разглядаюць праблемы беспрацоўя і эміграцыі ў Беластоцкім ваяводстве ў 1929—1939 гадах, гаспадарчую і грамадскую дзейнасць Людвіка Паца ў Даўспудзе, а таксама прынцыпы планавання падляшскіх гарадоў эпохі барока ў другой палове XVII і ў XVIII стагоддзі.

Другі раздзел «Матэрыялы» прыносіць публікацыі з галіны археалогіі, займаецца архітэктурна-планіраваным развіццём Гродна на працягу ад XIV па XVIII стагоддзе, справамі «Беластоцкай газеты» — першага польскага грамадска-культурнага тыднёвіка ў Беластоку ў 1912—1915 гадах, а таксама матэрыял, прысвечаны Беластоцкаму таварыству электрычнасці.

Нас асабліва зацікавіў артыкул *Уладзіміра Паўлючука «Грыбаўская секта — дактрына і ідэалогія»*. Гэты матэрыял цікавы і тым, што падымае праблематыку, звязаную з беларускім асяроддзем, бо грыбаўская секта распаўсюдзілася асабліва на тэрыторыі сённяшніх Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў. Артыкул, згодна з намерам аўтара, мае інфармацыйны характар, а мэтай яго з'яўляецца азнаямленне чытача з асаблівай грамадскай з'явай, якім было ўзнікненне грыбаўскай секты.

Грыбаўская секта не была, як гэта было з іншымі рэлігійнымі сектамі ў гэтым асяроддзі, вынікам дзеяння нейкай ідэалогіі, перанесенай у гэтае асяроддзе пры дапамозе спраўнага і выпрабаванага прапагандная апарату. Грыбаўская секта, як піша Паўлючук, была спантанічным рухам, часта нязгодным з намерамі самога прарока, а яе дактрыну і ідэалогію стварылі сфанатызаваныя сялянскія масы.

Што ж было прычынай гэтай з'явы? Аўтар, вельмі слушна, бачыць іх у бурлівых пераменах перыяду 1914—1939 гадоў. Прадпасылкі гэтых перамен Паўлючук бачыць у масавай дэпартацыі праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны ў глыб Расіі ў 1915 годзе, дзе гэтае насельніцтва перажыло вайну і рэвалюцыю, у эканамічнай руіне сялянства пасля вайны, у знаходжанні этнічна ўсходнеславянскай і праваслаўнай грамадскасці ў рамках польскай дзяржавы, якая прызнавала каталіцызм дзяржаўнай рэлігіяй, у паланізатарскіх тэндэнцыях часткі іерархіі праваслаўнай царквы.

Гэта ўсё даводзіць да заніку форм грамадскага жыцця, абапіраючыхся на вуснай народнай традыцыі. Гіне і распадаецца традыцыйная народная сялянская грамадскасць. Замест адналітай, зінтэграванай грамадскасці маем тут справу з групамі, якія прызнаюць розныя, супярэчлівыя сістэмы норм і вартасцей: традыцыйную рэлігійнасць, розныя рэлігійныя секты, грамадска-радыкальны светапогляд і асабліва камуністычную ідэалогію, а таксама групы моладзі, прафануючай усялякія святасці.

Грыбаўскую секту, сцвярджае аўтар, стварылі сялянскія масы, найбольш звязаныя з традыцыяй, і была яна роспачнай спробай абароны гэтай традыцыі і адначасова бунтам супраць афіцыйнай царквы, якая была няздольнай да гэтай абароны.

У. Паўлючук, аналізуючы грыбаўскую секту, спасцерагае тры асноўныя гістарычныя абумоўленні яе:

1) Ва ўмовах класавай барацьбы грыбаўская секта была адным з праяваў класавага незадавальнення беларускага сялянства, і адначасова няшкодным, з пункту гледжання пануючых класаў, яго разладаваннем. Афіцыйна за прысваенне чужой маёмасці атакавана было выключна праваслаўнае духавенства, а не краналася іншых, больш грозных форм эксплуатацыі.

2) У аспекце праблематыкі праваслаўнай царквы грыбаўская секта была спробай ратавання праваслаўя, якое ў той час перажывала крызіс. Гэты крызіс перад усім быў вынікам падзення царызму, з якім праваслаўная царква была інтэгральна звязана.

3) Асноўнай справай, наймацней і найчасцей выступаючай у размовах і дакументах секты, была абарона мясцовай этнічнай сялянскай традыцыі.

Сочачы за публікацыямі У. Паўлючука аб цікавых з'явах, адкрытых ім у праваслаўных грамадскасцях Беласточчыны, нельга не задаць сабе пытання: што далей? Якія з'явы грамадскага жыцця назіраюцца зараз? Можна спадзявацца, што гэтая вельмі цікавая тэматыка будзе пашырана іншымі даследчыкамі.

*А. Карпюк*

*) Rocznik Białostocki. Tom. IX. 1968—1969, Białystok 1970, str. 524, cena 135 zł.

### ЗБОР ЭКСПАНАТАЎ ДЛЯ РЭГІЯНАЛЬНАГА БЕЛАРУСКАГА ЭТНАГРАФІЧНАГА МУЗЕЯ Ў БЕЛАВЕЖЫ

16, 17 і 18 ліпеня г.г. кіраўнік Рэгіянальнага беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы мгр Уладзімір Гацута супольна са студэнтамі II курса этнаграфіі Варшаўскага універсітэта Збігневам Бенедыктовічам і Ежы Васілеўскім, якія адбываюць практыку ў нашым музеі, выязджалі на збор экспанатаў. Збор праводзіўся супольна з Гайнаўскім аддзелам БГКТ, а сакратар аддзела Віктар Бура узяў актыўны ўдзел у акцыі. Актыў Гайнаўскага аддзела БГКТ перад зборам правёў разведку па вёсках і ўцягнуў у акцыю членаў гурткоў БГКТ, якія аказалі нам на месцы вялікую дапамогу. Шчырае дзякуй таксама школьнай моладзі і дзецям за дапамогу і інфармацыі, асабліва Олі Ігнацюк з Палічнай, Міхасю Назаруку з Вулькі Тэрэхоўскай і іншым.

Збор экспанатаў аказаўся вельмі карысным для практыкантаў, якія мелі аказію пазнаёміцца непасрэдна з жыццём беларускіх вёсак на Беласточчыне і з даўнай матэрыяльнай культурай і мастацтвам беларускага насельніцтва. Студэнты ў рамах практыкі правялі таксама навуковыя даследванні драўлянага народнага будаўніцтва ў вёсцы Чыжыкі Гайнаўскага павета і апрацавалі навуковыя карты да шасці аб'ектаў.

Добра было б, каб другія аддзелы БГКТ ўзялі прыклад з Гайнаўкі і арганізавалі ў сябе збор экспанатаў для нашага музея.

Ніжэй змяшчаем спісак асоб, якія аддалі экспанаты, і прадметаў, якія атрымаў наш музей, дзякуючы гэтаму збору.

ПАЛІЧНА

Мікола і Анна Баран — ручнік вышываны «шнурочкам», макатка, рог на перац, каблукі да кошыка, дно да саламянай скрыні.

Рыгор Дудар — саламяны кузуб, сальнічка з бярозавай кары, замок, акова да буксы, урэхва, драўляны плуг.

Уладзімір Дудар — капыл, дзве аздобныя рамкі.

Уладзімір Баран — бельчык.

Мікола Зінчук — малаток, прач, чаўнок, ванторнік, капанька.

Оля Ігнацюк — сальнічка, капыл.

Герасім Стэпанюк — сталок, драўлянае вядро, прадушнік.

Анатоль Стэпанюк — матавіла.

Васіль Стэпанюк — матавіла.

Оля Стэпанюк — кашулі вышываныя, мужчынская і жаночая.

Эльжбета Вілюк — макатка.

Ніна Герасімюк — макатка.

ВОЙНАЎКА

Пятро Самосюк — прасніца, сякач, свярдзёлак, капылы, матавіла, сукальнік, дзве падпоры да драбінак, хамут, драўляныя вілы, кавальскі прас, нож для зразання асоту, шэсць драўляных бердаў, сашнік, ножанкі, башмак саламяны.

Стэфанія Петручук — макатка.

МОРА

Сяргей Анопюк — джоган да кашы, джоган да току, аздобы да ложка, два берды драўляныя, сукальнік, вешак, шпуля, бочачка з драўляным абручом бочачка на ваду, пасталы, жорны, ступа, таўкач, шуфля на збожжа.

Яша Аліфярук — лапата на хлеб, сукальнік, гарчык да масла, дзве накрыўкі да бочак, скуранае рэшата на гарох, шпулькі і стаянец, драўляная скрынка, ключка, каб вешаць калыску, таўкач, два рагалі да каўбас, бойка на масла, драўляныя аздобы да вуглоў і ганка, дваяны.

Лёнгін Юрчук — двухбаковая драўляная верша на рыбу, сальнічка.

Марыся Баравік — шлюбная кашуля (мужчынская).

ВУЛЬКА ТЭРЭХОЎСКАЯ

Оля Гаўрылюк — барана драўляная, тры аздобныя стужкі да ручнікоў.

Змітрок Назарук — сошка жалезная кованая, серп, дуга.

КЛЯШЧЭЛІ

Лявон Саласцюкевіч — два вялікія збанкі (гары).

НОВЫ КОРНІН

Міхал Гацута — дзве шасцярні да манежа, драўляны кручок. (уг)

◄

Варшаве, вялікай Кангрэсавай залы ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве і ў кожным іншым месцы, публіка ўсюды кладзецца са смеху. Але і навукі тут жыццёвай нямала.

У дзённіку Мушынскай можна прачытаць аб тым, як перад іхнім выступленнем у Нацыянальнай Філармоніі ў Варшаве на ўрачыстай акадэміі з выпадку 40-годдзя БССР у 1958 годзе сам Бернард Ладыш размаўляў з імі і падбадзёрваў. Слухачамі гарадоцкіх жанчын былі тады прадстаўнікі найвышэйшых улад. Ніна запісала: «Нас прасілі паўтараць нашы гарадоцкія прыпеўкі. Мы паўтаралі, а зала біла нам брава ў такт песень. Ніколі не забуду той хвіліны...»

Колькі першых месц заняў Гарадок за пятнаццаць год сваёй дзейнасці, колькі розных узнагарод — злічыць немагчыма! Па праўдзе кажучы, Гарадок быў пераможцам у кожным конкурсе, у кожным аглядзе. Будзем апярываць круглымі лікамі і таму скажам, што запісана ў гарадоцкай хроніцы 300 канцэртаў іхняга калектыву ў вялікіх гарадах краіны і ваяводства. Другія 300 адбыліся ў родным Гарадку і навакольных вёсках. Кожнае свята, кожнае здарэнне, кожную дзяржаўную ўрачыстасць спатыкае Гарадок новай праграмай, у якой элементам неадлучным з'яўляюцца іхнія — часта з'едлівыя, часта ўрачыстыя прыпеўкі. Хутка вынюхаюць гарадоцкія жанчыны, які начальнік іх слухае і адпаведна яму заспяваюць: або паласкочуць міла, або пакрытыкуюць востра. Найбольш аднак дастаецца мясцовым гарадоцкім уладам за рознага роду непаладкі. Напрыклад, так:

Што прэзасаў ў ГС-е трох,  
Дык гэта нам вядома.  
Адзін малодшы, старых двох,  
І гэта нам вядома.

Што робяць ўсё, каб ўвесці лад,  
І гэта нам вядома,  
Калі ж пачнуць рабіць без страт,  
Вось гэта невядома.

Вельмі гасцінным для Гарадка ўсе пятнаццаць год быў Клуб Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку, з якім ён няспынна супрацоўнічае.



*Некалькі год з жаночым калектывам супрацоўнічае Сцяпан Копа — настаўнік гарадоцкай школы, вялікі любіцель песні. На здымку ён у дуэце з Данусяй Арэховіч.*

З выпадку 25-цігоддзя Польскай Народнай Рэспублікі быў у Беластоку арганізаваны вялікі мастацкі фестываль нацыянальных меншасцей, якія пражываюць на Беласточчыне (беларусы, літоўцы, украінцы). Кожны імкнуўся прадставіцца тут як найлепш. Гіганцкі пяцігадзінны канцэрт у тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку закончыў Гарадок арыгінальнай пастаноўкай «Адвечнай песні» Янкі Купалы ў творчай апрацоўцы Ніны Мушынскай. У гэты сумны твор Купалы з 1910 года Гарадок тхнуў радасць і песню новых дзён. З адвечнай сумнай песні і бязвыхаднай долі зрабіў і новую песню, і новую долю.

Кажуць, што праца над «Адвечнай песняй» ідзе ў Гарадку далей. Марыць Ніна Мушынская, каб на заканчэнне увесці беларускія танцы. Аднавіць, выдабыць з забыцця Крыжачок, Бульбу, Польку, Юрачку, Мікіту і, вядома, Лявоніху.

Запытала я аднойчы гарадоцкіх жанчын, ці не назвалі б песень, якія дзякуючы ім сталі цяпер песнямі ўсіх. — Можаце запісаць, — сказалі: «Кума мая, кумачка», «Ой, ляцелі гусі з броду», «Баба Ксютка», некаторыя спяваюць «Баба Еўка», «Куранятк». З навейшых песень: «Колькі ў небе звёзд», «Родны край» (Лясамі ды азёрамі), «Мяцеліца», «Явар і каліна» і вельмі многа рускіх.

*Нататкі з ГДР*




Прыязджаючы ў чужую краіну, нам хочацца зазвычай вынайсці там нешта цікавае, нешта добрае, нешта такое, чаго няма ў нас, а што магло б нам спатрэбіцца. У ГДР ёсць чаму павучыцца.

Першае, што кінулася нам у вочы, калі мы перакрочылі польска-нямецкую граніцу, гэта была белая, як снег бялізна. Праязджаючы праз невялікія вёскі, хутары, мы бачылі яе, паразвешаную ля хат усюды. Снежнабелая была бялізна і ў гатэлях. Я чула, што немкі — добрыя гаспадыні, а можа аднак гісторыя сказала тут сваё важкае слова? Бо кажуць, што ўсяго пару стагоддзяў таму назад у Германіі гаспадыня плаціла штраф, калі паліцэйскі, правяраючы, выявіў, што ў хаце брудна або не памыта пасуда. «Павінны аднак мець добрыя парашкі да прання», — прамільгнула ў мяне, як у тыповай кабеты.

Другое — гэта пунктуальнасць. Дзякуючы сваёй пунктуальнасці немцы эканомяць у дзень 2—3 гадзіны. Пераканаліся мы ў гэтым, калі выбраліся аднойчы на экскурсію. 2 спецыяльныя аўтобусы пад'ехалі да замка Райнхардсбрун (дзе мы затрымаліся), каб завезці ўдзельнікаў экскурсіі ў палац «Вартбург», што знаходзіцца недалёка ад Эйзенаха. За дзесяць мінут да ад'езду ўсе былі на месцы ў аўтобусах. Надыходзіла гадзіна 13.00. Радыё ў аўтобусе паспела «пыкнуць» толькі 2 разы, і аўтобус рушыў. У нас жа, калі экскурсія вызначана на 9-ую гадзіну, то а 9.30 збяруцца, а ў 10.00 паедуць. Чаму? Навошта траціць каштоўны час?

Праязджаючы праз многія станцыі і гарады ГДР, мы неяк не заўважылі там таго, што нярэдка можна ўбачыць у нас на станцыях і вакзалах: не ўбачылі гуляшчых абібокаў, туляючыхся без работы людзей, або п'яніц, якія б таўпіліся гадзінамі каля кіёскаў з півам. Падпітага чалавека на вуліцы мы ўбачылі наогул толькі адзін раз. Ён стаяў за намі ў чарзе да таксі, і было па твары відаць, што ён піў.

Зярно рацыянальнасці мы ўбачылі і ў тым, як спажываюць немцы яду. Наогул ядуць немцы многа. Многа, хаця амаль не ведаюць, што такое прыстаўка і суп. Абед іх у асноўным складаецца з аднаго блюда і кавы. Адно гэтае блюда — гэта, уласна кажучы, не талерка, а паднос, і ёсць там мноства ўсяго: 2—3 катлеты, бульба, розная гародніна, яшчэ нейкія клёцкі, ці «кнэдлічкі». Уф-ф! Запіваюць кавай з дасканалымі(!) пірагамі. Такіх пірагоў, якія можна атрымаць там у першайлепшай кавярні ці рэстаране, можа пазайздросціць нават найлепшая гаспадыня. Ёсць тут і салоныя, і салодкія, і несалодкія ды несалоныя, пірагі, якія складаюцца з пластоў сямі-васьмі: ёсць там і цеста розных гатункаў, і крэм, і галярэтка і г.д. А славутыя Apfel — ці Kaesekuchen! Ох, лепш не ўспамінаць... І то ўсюды: у Саксоніі, у Турынгіі, у Прусіі...

Аднойчы, будучы ў Турынгіі, мы заказалі ў рэстаране «вяндліну па-турынгску». Кожнаму з нас прынеслі цэлы паднос, на якім ляжалі кавалкі розных кілбас і сальцісонаў. Пасярэдзіне высілася чарка з чыстай гарэлкай. І гэта, называецца, адно блюда...

Адным словам, маюць што паесці. Але спажываюць стравы інакш, чым мы. У нас, напрыклад, фасон (а можа нават з фасона перарадзілася ўжо ў прывычку) — пакінуць на талерцы, не даесці, паказаць, што ты не галодны, што «Stać nas...». Там гэта справа выглядае зусім інакш. Немец на талерцы не пакіне аніводнай крышынкі, ані кроплі тлушчу. Усё, без усялякага сораму, вымажа хлебам і з'есць. Нават на гэтым дробным факце можна пераканацца, як можна эканоміць ды як можна багацець.

Мне хацелася б яшчэ сказаць некалькі слоў аб таксі. Трэба адразу адзначыць, што нямецкія таксісты ведаюць, за што ім плацяць. Нашыя таксісты, калі да іх падыходзіш ды пытаеш, як бы перапрашаючы, ці можна, найчасцей маюць міну графа, якому абрыдла жыццё. А ўжо, барані бог, калі вашыя пакункі не ўваходзяць у машыну і трэба ўстаць ды адкрыць багажнік, у якім не раз бывае склад хламу. Часта, вельмі часта шафёры таксі патрабуюць за гэта дадатковай заплаты.

У ГДР, як толькі падыходзіш да таксі, шафёр адразу ж з яго выскаквае, хапае з вашых рук багаж, ставіць яго ў багажнік, адчыняе вам дзверкі і зачыняе за вамі. Нехта б мог падумаць: вас абскаквалі, бо ўбачылі, што вы іншаземцы. Няпраўда. Так абслугоўваюць усіх без выключэння. Сама бачыла, як таксіст, доўга і цярпліва тлумачыў падарожнаму, як папасці на нейкую там вуліцу. Меў ён час для кліента.

*Ада Чэчуга*

# ЯК УТВАРЫЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ ПРОЗВІШЧЫ

Назоўнік прозвішча паходзіць ад старога ўсходнеславянскага дзеяслова празваць, які некалі азначаў «даць назву, імя, мянушку».

Пазней беларускае слова прозвішча змяніла сваё першапачатковае значэнне і зараз павінна тлумачыцца як «імя, назва сям'і, роду». Змена гэтая адбывалася паступова, павольна. Спачатку пад прозвішчам разумелі імя чалавека і мянушку жывёліны. Уласна кажучы, паміж імі не было ніякай прынцыповай розніцы. Прынамсі, да хрышчэння нашых прозвішчаў, якое адбылося каля тысячы гадоў таму назад. Да сённяшняга дня дажылі мянушкі кароў Бурая, Лысая, Рудая, коней — Вараны, Гняды, Сівы, сабак — Бобік, Тузік, Шарык і г.д. А людзей даўней звалі Воўк, Жаба, Лешч, Сокал, Чайка. Сустракаліся таксама прозвішчы-мянушкі Бурак, Звяга, Злы, Капуста, Мароз, Мельнік, Шуба, Шыла. Князёў называлі Мсціслаў, Расціслаў, Святаслаў, Уладзімір і г.д.

Прыняцце хрысціянства па грэчаскаму абраду шырока расчыніла дзверы грэчаскім імёнам, значэнні якіх разумела духавенства, але не ведалі самі носьбіты іх. Між тым і новыя імёны абавязкова нешта абазначалі. Так, Алесь, Аляксей — па-грэчаску «абаронца», Андрэй — «мужны», Арцём — «здаровы», Агата — «каханне», Варвара — «язычніца», Георгі, Юрась, Юрка — «земляроб», Дзямід — «рада багоў», Кузьма — «упрыгожанне», Мацей, Мацвей — «пасланы богам» і г.д.

Тады ж праз грэчаскую мову трапіла да ўсходніх славян і нямала імён з іншых моваў. З лацінскай, напрыклад, у нас засталіся імёны Валянцін — «дужы», Валеры — «бадзёры, здаровы», Віктар — «пераможца», Домна — «пані», Кастусь — «цвёрды», Лаўрэн — «лаўровы», Лука — «святло», Павел — «малы», Пятро, Петрык, Пятрусь — — «камень», Раман — «рымлянін, жыхар Рыма», Ульян, Ульяна — «ліпнёвы» (ліпнёвая), народжаны ў ліпені». Са стараяўрэйскай прыйшлі імёны Адам — «чалавек, муж, зямля», Гаўрыла — «чалавек божы», Даніла — «суддзя», Ева — «жанчына, жонка», Саўка — «суботні», Сымон — «пачуты».

З астатніх моваў захаваліся асобныя і даволі рэдкія імёны, як Алег, Вольга — са скандынаўскіх («карысны, карысная»), Кірыла — з іранскай («сонца»). З германскіх моваў трапіла імя Глеб («богам любімы»).

Пэўная колькасць імён прыйшла да нас праз польскую мову і набыла польскую гукавую афарбоўку, як Тамаш (Фама, са стараяўрэйскай — «блізнюк»), Шыман (Сымон, са стараяўр. — «пачуты»), Фэлька, Фэлікс (з лац. — «шчаслівы») і інш. Здарылася гэта ў сувязі з шырокім акаталічваннем і апалячваннем жыхароў некалі самастойнай беларускай дзяржавы — так званага Вялікага княства Літоўскага.

Параўнальна даўно ўсходнія славяне ўжывалі адначасова з імем імя бацькі. Спачатку гэта рабілі толькі ў адносінах князёў і шляхты, а пазней — і ўсяго насельніцтва. З цягам часу бацькава імя зрабілася фамільным, сямейным, родавым, г. зн., прозвішчам у сучасным сэнсе слова. Так узнікла большасць беларускіх прозвішчаў на -іч ад хрысціянскіх імён з грэчаскай, лацінскай, стараяўрэйскай і іншых моваў, напрыклад (усе яны выпісаны намі з «Літоўскай метрыкі» — архіву Вялікага княства Літоўскага): Алексіч, Багдановіч, Барташэвіч, Бутрымовіч, Вайткевіч, Васілевіч, Давідовіч, Еўлашэвіч і іншыя.

Па ўзору прозвішчаў на -іч ад уласных іменаў пачалі ўтварацца таксама прозвішчы ад ранейшых мянушак: Валковіч, Жуковіч, Забеліч, Невяровіч, Самадуравіч (усе з «Літоўскай метрыкі»). Цікава, што ў Вялікім княстве Літоўскім такім чынам утвараліся прозвішчы не толькі беларускага, але і яўрэйскага і татарскага насельніцтва. Так з'явіліся ў нас прозвішчы Дактаровіч, Белксутовіч і іншыя.

Частка беларускіх прозвішчаў ад уласных іменаў і мянушак утворана пры дапамозе суфіксаў -аў (Быкаў), -оў (Церашкоў), -ёў (Кавалёў), — па ўзору тых, што рабіліся з дапамогаю суфікса -іч. У рускай мове суфіксы -ов, -ев у прозвішчах — найбольш распаўсюджаныя.

Нямала беларускіх прозвішчаў утварылася з дапамогаю суфікса -скі ад назваў мясцовасці (Крупскі, Мірскі, Свірскі), але перш так утвараліся толькі шляхецкія прозвішчы. У аснову іх клаліся назвы двароў і маёнткаў, якімі валодалі князі і паны. Пазней на -скі з'явілася нямала іншых прозвішчаў, але значэнне іх было тое ж, што і прозвішчаў на -іч, -аў, -еў, -оў і азначалі «сын (дачка) такога -та» (Лісоўскі, Маркоўскі, Сакалоўскі, Янкоўскі). Пры дапамозе суфіксаў -енак (-ёнак) -еня, -ук -юк, -ык утварыліся прозвішчы з тым жа значэннем (Самуйлёнак, Варвашэня, Пракапчук, Нікіцюк, Пахомчык).

Большасць беларускіх прозвішчаў узнікла ў пару фарміравання беларускай народнасці, якое адбылося ў часы Вялікага княства Літоўскага (XIII—XVII стагоддзі), хоць гэты працэс працягваўся ўвесь час існавання нашага народа і працягваецца зараз.

*В. Ванковіч*

# БЕЛЬСКІ ПАВЕТ — УСЁ БОЛЬШ МУЗЫКІ . . .

Новы музычны калектыў арганізаваўся ў гэтым годзе ў Страблі. Дзесяць маладых дзяўчат вучацца іграць: 8 — на мандаліне, 2 — на гітары.

Даўно ўжо працуюць вядомыя музычныя калектывы ў Піліках і Боцьках. У самым горадзе Бельску працуе музычнае агніска. Яно развіваецца вельмі добра. 90 дзяцей у ім іграюць на розных музычных інструментах. Бельскае агніска мае свае аддзелы (філіялы) у Боцьках, Браньску і Сямяцічах.

Пры эканамічным тэхнікуме ў Бельску працуе духавы аркестр. Гаворыцца — пры тэхнікуме, але па сутнасці гэта міжшкольны аркестр — вучні многіх сярэдніх бельскіх школ іграюць у гэтым аркестры. Цяпер ён рыхтуецца да новага культурна-асветнага года.

Інакш справа мелася з духавым аркестрам, радавод якога сягае пачатку 50-тых гадоў. Маем на думцы духавы аркестр беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску. Слава яго ў свой час была вельмі вялікай. Потым усё замерла і гукі бадзёрых маршаў зніклі з бельскіх вуліц.

А вось новая надзея... Даведваемся, што ўзнавіў сваю працу духавы аркестр беларускага ліцэя. Людзі новыя і кіраўнік новы — Тадэуш Сідаровіч. У аркестры зараз 30 здольных хлапцоў. Плён іх працы занатуем таксама недзе пад зіму. А пакуль — жадаем поспехаў! І вельмі нам прыемна сцвердзіць, што «разыгрываецца» бельская зямля.

Яшчэ адна навіна ў сувязі з бельскай музыкай. Недзе ў 1973, а мо ў 1974 годзе пад гукі ўрачыстага маршу бельскіх духавых аркестраў ўвойдзем у новую школу ў Бельску. Яшчэ адну школу ў гэтым вельмі школьным горадзе. Будзе яна змяшчацца ў забытковым будынку цяперашняй пошты пры вуліцы Беластоцкай. А яе назва: Музычная школа (пачатковая) ў Бельску Падляшскім...

### І УСЁ МЕНШ СВЯТЛІЦ...

Ва ўсім Бельскім павеце асталося іх толькі 3. Усе іншыя замяніліся на больш сучасныя і па назве і па сутнасці працы ўстановы, якімі з'яўляюцца клубы. Клубаў працуе цяпер на Бельскай зямлі 36.

У сезоне (восень—зіма) на Бельшчыне родзіцца або адраджаецца каля 80 самадзейных калектываў. У большасці гэты калектывы крыху ўстарэлага характару: гэтак званыя папулярна драмгурткі. Некаторыя з іх жывуць коратка. Паставяць адну «штучку» і на гэтым канчаецца іх жыццё.

Можна сцвердзіць на аснове Бельскага павета адну цікавую рэч: больш сучасныя формы культурна-асветнай працы хутчэй і лягчэй родзяцца ў большых мясцовасцях, у мясцовасцях больш адукаваных, з больш арганізаваным грамадскім жыццём. Драмгурткі застаюцца папулярнай і масавай формай у мясцовасцях без шырэйшых гарызонтаў. За выключэннем (гэта адзначаем адразу) вёсак і гурткоў, якія цэлымі гадамі безупынна працуюць і якія дабіліся вялікіх і выдатных поспехаў.

(вл)

Пятнаццаць год Гарадок над Супрасль-ракой пражыў і пражывае ў далейшым пад добрым знакам: актыўных працавітых жанчын.

ВЕРА ЛЕЎЧУК
Фота Цаф — Сянько



*Песня «Нёман родны» і славутае гарадоцкае трыё. Злева: Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Зофія Пашкоўская.*

# ЯСНАЯ ЗАГАДКА ГАЙНАЎШЧЫНЫ

Сёлета ашчадна-пазыкавыя касы СОП на Беласточчыне ўпершыню адзначылі сур'ёзную ўдачу: зімой грашовыя ўклады гаспадароў на кніжачкі СОП павялічыліся аж на дваццаць пяць мільёнаў злотых. Разам капітал СОП-аў перавысіў семсот мільёнаў.

Прэзас Цабан з Ваяводскага аб'яднання СОП-аў сказаў:

— Спасярод усходніх паветаў найлепшым аказаўся Гайнаўскі. Тут на кніжачках СОП звыш семнаццаці мільёнаў злотых.

Вельмі прыемна было пачуць гэта. Але разам з гэтым прэзас Цабан засмуціў весткай, што той жа Гайнаўскі павет вельмі мала карыстаецца крэдытамі СОП-аўскімі. Значыць, гаспадары Гайнаўшчыны збіраюць грошы, а не карыстаюцца імі. Чаму так? Павінна быць якраз наадварот, бо гайнаўская зямля патрабуе многа грошай, многа ўкладу ў яе, каб стала яна па-людску радзіць добрыя ўраджаі. Гайнаўскі гектар зямлі дае ўсяго паўтары тысячы даходу ў той час, калі зусім не лепшы гектар зямлі ў такім Аўгустоўскім павеце дае даходу ўтрая больш, чатыры з паловаю тысячы злотых! Чаму Гайнаўшчына з усіх паветаў Беластоцкага ваяводства найменш карыстаецца крэдытамі?

На гэтае «чаму» частковы адказ даў учынак аднаго гаспадара з ваколіц Нараўкі. Было гэта прыблізна так: гаспадар той не захацеў выкупіць прыдзеленых яму мінеральных угнаенняў для паляпшэння гаспадаркі, тлумачачыся непатрэбнасцю іх, а потым, думаючы, што яго пакараюць за гэта, прадаў адну з дзвюх сваіх кароў, ведаючы, што апошняй каровы не забяруць на сплату кары... Кары не было, гаспадар угнаенняў, вядома, далей не выкупляў, лічачы іх дурной выдумкаю паноў «з места».

Зямля без добрага ўгнаення няшмат дасць, а на Гайнаўшчыне слаба дбаюць аб зямлі. Таму і даходы тут гаспадароў амаль найменшыя ў ваяводстве, Сакольшчына горшая. Толькі скнэрліва капічаць грошы...

(ся)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### КАЛАФЁРЫ

*(цвятная капуста)*

Калафёр — гароднiна, якая мае ў сабе шмат бялка, фосфару, а таксама даволі многа вітаміну С.

Белыя (не жоўтыя), крэпкія калафёры — смачнейшыя і больш далікатныя. На суп аднак можна браць і не першагатунковыя галоўкі, тыя, якія зазвычай бываюць вельмі танныя.

Вось некалькі правіл, не ведаючы якіх, нельга зварыць добра цвятной капусты.

1. Калі хочаш, каб калафёр зварыўся хутчэй, трэба з качана зняць скурку і падрэзаць яго на крыж.

2. Перад тым, як зварыць, мочым калафёр мінут 15 у вадзе з лыжкай воцату, каб павылазілі з яго маленькія вусені, якія часта сядзяць у сярэдзіне калафёра.

3. Варым цвятную капусту ў пасоленай вадзе, дадаючы лыжачку цукру. Вада павінна яе поўнасцю пакрываць, варыць трэба мінут 15—20.

4. Калі хочаш, каб калафёр застаўся белы, вары яго на моцным агні без накрыўкі.

5. Каб нейтралізаваць непрыемны запах калафёра ў час варкі, першыя 10 мінут трэба варыць яго з кавалачкам хлеба, загорнутым ў тоненькае палатно.

Сёння мы падаем пару рэцэптаў на стравы з варанага калафёра. Нельга аднак не ведаюць аб тым, што наперакор амаль усеагульным поглядам, калафёры вельмі смачныя і пажыўныя ў сырым выглядзе. Можна іх падаваць як закуску: памыты і падзелены на пасобныя ружачкі, калафёр укладваем на талерцы, а да гэтага падаем у соусніцы маянез. Кавалкі калафёра мачаюць у маянезе і так ядуць.

*Калафёр па-французску* — гэта, уласна кажучы, вельмі распаўсюджаная ў нас страва. Калафёр варым у пасоленай ды пасалоджанай вадзе, дадаем пры гэтым лыжку мукі, размешаную ў халоднай вадзе. Калі калафёр зварыцца, вымаем яго з вады, на талерцы, ці місцы паліваем маслам, пераджараным з молатымі сухарамі. Але можна паліць яго таксама проста разагрэтым маслам і пасыпаць зялёнай пятрушкай.

*Калафёр па-італьянску.* Тут варта ўзяць 4 невялікія калафёркі і зварыць іх, як было пададзена вышэй.

У лыжцы тлушчу ўтушыць 20 дэкаграмаў пячарак з адной цыбуляй, дадаючы па смаку соль і перац.

Падрыхтаваць густы бемамелевы соўс: разагрэць на патэльні лыжку мукі і масла, уліць шклянку смятаны, закіпяціць.

Адставіўшы з агню, дадаць пячаркі і вымяшаць.

Звараныя калафёры вылажыць на паасобныя місачкі, выламаныя лісткамі салаты, спырснутыя алеем і лімонным сокам, пры гэтым калафёр павінен ляжаць «уніз галавой». Асцярожна выразаем качан, каб не сапсаваць формы, адтуліну напаўняем пячаркамі з соусам, пасыпаем зелянінай і зараз жа падаем.

*Гаспадыня*



## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ



**Чэрць стагоддзя назад**

*15 жніўня 1945 года вызвалена была Карэя. На здымку новыя жыллёвыя будынкі раёна Ботанбул у сталіцы КНДР Пхеньяне.*

### ТАЯМНІЦА ПУСТЫНІ КАВІР

Ніхто не падазраваў, што пазбаўленыя жыцця пяскі пустыні Кавір-е-Лут, або, як яе называюць у Іране, Вялікай пустыні, тояць пад сваёй тоўшчай рэшткі цывілізацыі, якая некалі тут працвітала.

Выявілі гэта выпадкова. Іранская навуковая экспедыцыя, якая выехала ў Кавір-е-Лут для вывучэння магчымасцей замацавання рухомых пяскоў і арганізацыі лесанасаджэнняў, натрапіла на сляды старажытнай цывілізацыі, узрост якой, паводле заключэння археолагаў, IV—III тысячагоддзе да нашай эры.

Раскопкі іранскіх вучоных у пустыні Лут раскрываюць яшчэ адну непрачытаную старонку гісторыі чалавецтва, якая расказвае аб пахаванай пад пяскамі цывілізацыі, што працвітала шэсць тысяч гадоў назад на тэрыторыі памерамі ў два разы большай за Вялікабрытанію.

### СВЯТЛО, СМЕРЦЬ І ЖЫЦЦЁ

Лазер — гэтае слова паявілася зусім нядаўна. Тэарэтычныя асновы пабудовы і дзеяння светлавога генератара, якім з'яўляецца лазер, вучоныя А. Л. Шалаў і Ц. Г. Таўнс апрацавалі толькі ў 1958 годзе. А зараз... Зараз паясненне гэтага слова можна знайсці ў кожнай энцыклапедыі, у кожным слоўніку. Лазер — гэта апарат, які так узмацняе святло, што дасягае яно небывалай энергіі і сілы. Прамень лазера прабівае самы тоўсты стальны панцыр, як паветра.

Зараз рознага тыпу лазеры прымяняюць у медыцыне (аперацыя вока), у фізіцы (вывучэнне квантавых праблем) і тэхніцы (апрацоўцы звышцвёрдых матэрыялаў).

У 1964 годзе Шведская акадэмія навук вынаходцам лазера прысвоіла Нобелеўскую прэмію ў галіне фізікі. Прэмія гэта была падзелена паміж Шалавым, Таўнсам і двума савецкімі фізікамі — Басавым і Прохаравым.

У той час у Злучаных Штатах Амерыкі праблемы лазернай тэхнікі вывучала ўжо 500 калектываў вучоных, разам — некалькі тысяч асоб. На лазерную тэхніку перш за ўсё не шкадавалі грошай амерыканскія ваенныя спецыялісты. Сёння гавораць ужо пра «лазерную вінтоўку», у якой выслужваную кулю замяніў бы магутны струмень святла. Ён ціха і амаль небачна знішчаў бы усё, што сустрэў бы на сваім шляху. Ніякі танк, ні браняносныя караблі не змаглі б перад ім абараніцца. Гавораць таксама пра лазерныя ўстаноўкі, замантаваныя на штучных спадарожніках нашай планеты. На радыёзагад, высланы ад наземнага камандавання, змаглі б яны выклікаць пажар у любым пункце зямлі.

Лазерная тэхніка не абавязкова мусіць быць настаўлена толькі на знішчальнае дзеянне. Кожны год прыносіць новае яе прымяненне ў мірным жыцці. Вучоныя, напрыклад, ужо ўсур'ёз пачалі гаварыць пра *голаграфавізію* — гэта значыць, пра *тэлевізію, абаснаваную на лазернай тэхніцы*. Дазволіць яна атрымаць вобраз амаль такі, які праз акно бачаць нашы вочы — прасторны, трохвымерны, каляровы, з выразна адчувальнай глыбінёй. Голаграфавізія пашырыць магчымасці нашага зроку. Пры яе дапамозе зможам бачыць у цемнаце.

Варта яшчэ адзначыць, што лазерныя апараты для мірнага выкарыстання прадукуюцца ўжо некалькі год у Польшчы, а польскія канструктары могуць у гэтай галіне адзначыць немалыя поспехі. Між іншым пабудавалі яны ўнікальную апаратуру для аперацыі вока. (вр)

### ТОКІО

Колькасць насельніцтва найвялікшага горада свету Токіо, пабольшылася на працягу мінулага месяца на 81.346 чалавек і зараз мае 11.524.666 жыхароў. Пераважае колькасць мужчын — 5.860.083 чалавек. (ак).

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### СКАРБ ДЛЯ ФІЛАТЭЛІСТАЎ

Французская пошта аб'явіла тэрміновы пошук 540 адрасатаў, якія пражывалі ў Парыжы ў перыяд Франка-прускай вайны 1870—1871 гг., каб уручыць ім пісьмы, адпраўленыя ў студзені 1871 года і, па незалежных ад пошты абставінах, не дастаўленыя па ўказаных адрасах.

Пісьмы былі вылаўлены ў 1968 годзе ў вусці ракі Сены. Яны знаходзіліся ў цынкавых скрынках, вядомых у Францыі пад назвай «скрынка Мулэна».

Так называўся ў перыяд франка-прускай вайны арыгінальны спосаб дастаўкі пісьмаў у асаджаны прусакамі і адрэзаны ад астатняй Францыі Парыж. Пісьмы у цынкавых скрынках з невялікімі лопасцямі кідаліся ў Сену, вышэй Парыжа, пад Фантэнбло. Скрынкі ішлі пад ваду і, захопліваемыя цячэннем, плылі па Сене ў Парыж, дзе іх вылаўлівалі спецыяльнымі жалезнымі сеткамі.

Такім чынам, пад самым носам у прусакоў ажыццяўлялася паштовая сувязь паміж Францыяй і асаджаным Парыжам. Тагачасная паштовая служба рэкамендавала французам рабіць на пісьмах, што адпраўляліся ў Парыж, спецыяльную паметку: «Парыж праз Мулэн».

Парыжскі часопіс «Філатэлія» ўжо апублікаваў першы спіс парыжан, якія не атрымалі пісьмы, адпраўленыя ў «скрынках Мулэна». Узмоцнены пошук адрасатаў працягваецца. Французскія філатэлісты ўзбуджаны. Газета «Франс суар» піша, што «замагільная пошта» з'яўляецца сапраўдным «філатэлісцкім скарбам». Спецыялісты ацэньваюць пісьмы з паметкай «Парыж праз Мулэн» у велізарную суму — 500 тысяч франкаў.

### КУДЫ ДЗЯВАЕЦЦА АДНА ПЯТАЯ УРАДЖАЮ?

Адна пятая ўраджаю, які вырашчан чалавекам на палях Зямлі, ніколі не даходзіць да яго стала — такія вынікі даследаванняў, якія праведзены дэпартаментам унутраных спраў ЗША. Лічба гэта сярэдняя. У менш развітых краінах яна вышэйшая — ад 20 да 30 працэнтаў. Злачынцы — грызуны, насякомыя, споры.

### ГАЗЕТА ПРАЗ СПАДАРОЖНІК СУВЯЗІ!

Нядаўна ажыццёўлена перадача цэлай газетнай паласы з Лондана ў Пуэрта-Рыка праз спадарожнік сувязі.

Першая старонка «Дэйлі экспрэс», у выглядзе фотанегатыва «запушчаная» праз спадарожнік «Эрлі Берд» (частка шляху пройдзена па падводным кабелі), дайшла да рэдакцыі сан-хуанкай «Эль мунда» за рэкордна кароткі тэрмін — усяго за 15 мінут. У «Эль-мунда» зрабілі матрыцу паласы, гатовую для запуску ў ратацыйныя машыны. Як адзначаюць спецыялісты, гэты спосаб адкрывае новыя перспектывы хуткай дастаўкі свежых газет у самыя аддаленыя раёны свету.




— Тое, што я хачу расказаць, зусім не казка, не выдумка, не фантазія каго-небудзь з сучасных паслядоўнікаў славутага Жуля Верна. Гэта сапраўднае здарэнне, зарэгістраванае ў летапісах гісторыі паветраплавання і адзначанае прэсай, — расказвае капітан Ганзалец, камандзір мексіканскага некіруемага аэрастата «Рэспубліка».

— Мы ляцелі на вышыні амаль у дзве тысячы метраў, калі сустрэліся з вялізным кондарам, які рабіў свой палёт. Велічная птушка ляцела амаль паралельна нам, не варушачы крыламі, разразаючы паветра, нібы аэраплан. Нечакана яна змяніла кірунак палёту і звярнула пад вуглом так, што нашы шляхі амаль перасекліся. Кондар праімчаўся міма нашага шара на адлегласці якіх-небудзь дваццаці метраў, і нам было відаць, як птушка, павярнуўшы ў наш бок сваю характэрную галаву, уважлівым і недаверлівым позіркам сачыла за намі.

— Прывітанне табе, цар скал! — крыкнуў, смеючыся, мой памочнік паручык Сант-Антоніо і замахаў сваёй шапкай. І калі кондар ужо знікаў удалечыні, апярэдзіўшы нас, ён зноў закрычаў наўздагон:

— Папярэдзь сваіх братоў, кондар, што мы адпраўляемся з візітам у іх царства...

Прайшла яшчэ гадзіна, другая. Газ паступова выходзіў з абалонкі шара.

— Што гэта? Глядзіце, Ганзалес.

— Гэта яны вылецелі наладзіць нам урачыстую сустрэчу. Вы ж прасілі першага сустрэчнага кондара папярэдзіць іх аб нашым прыбыцці! — пажартаваў я.

— А, д'ябал!.. Глядзіце, лейтэнант... Яны ляцяць проста на нас...

І раптам уся чарада, быццам па сігналу, рынулася на наш аэрастат. Велізарныя птушкі з шалёным крыкам падляцелі амаль ушчыльную да шара, крычалі, чапляліся за вяроўкі сеткі, разяўлялі магутныя дзюбы. Часам ад удару крылом па якой-небудзь вяроўцы або па кальцу наша гандола гойдалася, трэслася, як у ліхаманцы.

— Страляйце!.. Страляйце!.. — закрычаў я спадарожніку. — Страляйце, а то яны загубяць шар, а з ім і нас...

Сант-Антоніо выхапіў свой рэвальвер і раз за разам выпусціў па кондарах, што кружыліся вакол аэрастата, сем куль. Пакуль ён перазараджваў рэвальвер, пачаў страляць і я. Але — дзе там! — хоць абодва мы лічыліся нядрэннымі стралкамі, здаецца, ніводная куля не дасягнула сваёй цэлі. Кондар вельмі жывучы або, як гавораць паляўнічыя, «моцны на рану», і каб знішчыць яго, трэба нанесці раненне ў вобласці жыццёвых органаў.

— Баласт? Кідайце баласт! — паспеў я крыкнуць паручыку паміж адным штурмам птушак і другім.

Сант-Антоніо хуценька скінуў адразу чатыры мяшкі баласту. Шар літаральна ўзвіўся па вертыкальнай лініі ўверх, на вялікую вышыню. І я ўбачыў, як чарада кондараў, што засталася там, далёка ўнізе, пад намі, мітусілася, крычала.

Дзякуй богу, адчапіліся...

Але што гэта? Аднекуль вынырнула чорная кропка. Бліжэй, больш...

І мы бачым, што велізарны кондар імчыць проста на аэрастат. Абодва нашы рэвальверы былі зараджаны, і мы сустрэлі птушку залпам. Але яна імчала з такой хуткасцю, што папасці ў яе не было фізічнай магчымасці, і праз імгненне цела шара закрыла кондара ад нашых выстралаў.

— Ён лётае над шарам! — закрычаў Сан-Антоніо.

— Ён наляцеў на шар! — адказаў я яму.

Птушка, відаць, учапілася за сетку; цяпер аэрастат трэсла, і нашу гандолу нясцерпна гойдала.

Узброіўшыся нажом, я на мускулах падцягнуўся на кольцы, потым палез па невялікай шаўковай лесвіцы ўверх, цвёрда вырашыўшы ўступіць у бой з драпежнікам, які дзёўб шар.

— Сан-Антоніо, страляйце!

— Не, не магу! — данёсся да мяне адказ таварыша. — Мне бачны толькі некалькі пер'яў...

І вось, нарэшце, праціснуўшыся паміж абалонкай шара і сеткай, я дабраўся да таго месца, адкуль мне добра быў бачны кондар, які тузаў нейкі вузел сеткі. Нарэшце!..

Я машынальна, амаль не цэлячыся, выстраліў. Куля працяла цела птушкі.

Зноў выстрал! І яшчэ... На гэты раз абедзве кулі папалі: адна ў галаву птушкі над левым вокам, другая — у шыю. Птушка ўпала, не выпусціўшы шара: яна павісла, зачапіўшыся кіпцюрамі за сетку.

Праз паўгадзіны «Рэспубліка» пачала спускацца. Спуск адбыўся без усялякіх ускладненняў. Нас убачылі жыхары невялікага пасёлка, паспяшалі на дапамогу, затрымалі спушчаны гайдтроп, прымацавалі яго да ствала кактуса, прыцягнулі гандолу да зямлі і дапамаглі нам выйсці.

